

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС


Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 504 Студзень 2
Год выданьня


## Славянскі фэстываль у Атаве



Пасьля толькі некалькіх рэпэтыцыяў народжаныя ў Канадзе беларускія дзеці векам ад трох да сямі гадоў таньчылі беларускі народны танец "Бульба" і сьпявалі беларускія песьні ў залі прэстыжнага канадыйскага Музэю цывілізацыі, дзе трымя днямі пазьней Прэзыдэнт ЗША абедаў з кіраўнікамі Канады. Дзеці так сьпявалі й танцавалі, што скончыўшы, некалькі разоў павінны былі выходзіць кланяцца, бо гледачы не хацелі адпускаць.

Малыя артысты, пяцёра дзяўчынак – Ніна-Марыя і Агата Лёгвіны, Лілія Пялюшонак, Паўлінка Шамецька і Дзіна Маковіч – адзін хлопчык – Алёша Тыпенка, бралі ўдзел 28 лістапада сёлета ў славянскім дзіцячым канцэрце. Усе яны ходзяць суботамі ў Беларускую школу, якая нядаўна адкрылася ў Атаве. Дзякуючы настаўнікам, сп-ву Дануце і Пётру Мурзёнкам, дзеці навучыліся сьпяваць беларускую песеньку і танцаваць "Бульбу" літаральна за дзьве суботы.

Дык што-ж казаць? Калі дзеці ў Канадзе сьпяваюць на беларускай мове пасьля двух рэпэтыцыяў, дык мова гэтая адродзіцца ад наркатычнага сну і ў самой Беларусі. І, відавочна, не спатрэбіцца на гэта шмат часу.

***Юрка ПЯЛЮШОНАК***

## Каляднае віншаваньне
### Старшыні Рады БНР Івонкі СУРВІЛЛЫ



Дарагія суродзічы беларусы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую Вас з Каляднымі сьвятамі і надыходзячым Новым 2005-м годам.

Прайшоў яшчэ адзін год, змарнаваны дыктатарскім рэжымам. Быў ён, магчыма, яшчэ горшым за папярэднія – бо падроблены рэфэрэндум згасіў нават у аптымістаў агеньчык надзеі на зьмену і адраджэньне.

Але мы ня маем права, дарагія суродзічы, падаць духам. Тут справа ўжо ня ў выбары між рознымі поглядамі на будучыню нашай краіны, тут справа ў існаваньні ці неіснаваньні нашай дзяржавы і нашага народу. Ад Вас залежыць сёньня ня толькі Вашая будучыня, але і будучыня Вашых дзяцей і ўнукаў. І будучыня нашай Бацькаўшчыны – Беларусі!

Дзякуючы змаганьню патрыётаў, якія вераць у лепшую будучыню Беларусі, шмат было зроблена і ў гэтым годзе. Некаторыя падзеі,незалежныя ад нас, дапамаглі ў гэтым змаганьні. Фальсыфікацыя выбараў ва Ўкраіне і паводзіны Пуціна падчас і пасьля іх паказалі сьвету сапраўдны твар Масквы, сапраўдныя намеры яе ў дачыненьні да сваіх славянскіх суседзяў. Між іншым, хачу падкрэсьліць тут заяву Пуціна, што, маўляў, расейскамоўе украінцаў дае яму права мяшацца ў выбары гэтай суседняй краіны. Спадзяюся, што задумаюцца над гэтай заявай тыя беларусы, якія дасюль не зразумелі, чаму іх цягам дзьвюх стагодзьдзяў так жорстка русыфікавалі.

Дарагія суродзічы, добразычлівы сьвет гатовы дапамагчы Беларусі стацца вольнай дэмакратычнай беларускай дзяржавай, за існаваньне якой Рада Беларускай Народнай Рэспублікі змагаецца і будзе змагацца, пакуль не дасягне гэтае мэты.

Хачу сёньня прасіць Вас далучыцца да гэтага змаганьня. У гэтыя калядныя і навагоднія сьвяты гэта ёсьць маім найбольшым жаданьнем. Героям, якія ўжо далучыліся, зычу трываласьці і сілаў. Усім іншым зычу перамагчы страх, які яшчэ трымае наш народ у няволі. Разам мы пераможам усе цяжкасьці.

Жыве Беларусь!

## Канфэрэнцыя славістаў

З 3-га па 7-е сьнежня ў Бостане праходзіла 36-я Нацыянальная канфэрэнцыя Амэрыканскай Асацыяцыі Разьвіцьця Славістычных Студыяў (American Association for the Advancements of Slavic Studies, AAASS), у якой бралі ўдзел беларускія дасьледчыкі. Канфэрэнцыя праходзіла ў вялізным гатэлі Бостан Мэрыёт—Коплі Плэйс і складалася зь вялікай колькасьці сэкцыяў, сярод якіх дзьве былі непасрэдна прысьвечаныя пытаньням, зьвязаным зь Беларусьсю, а менавіта: "Мова і грамадзтва ў Беларусі й Украіне", на якой старшыняваў Курт Вулгайзер (Гарвардскі ўнівэрсытэт), і "Беларуска-гэбрайскія адносіны ў 20-м стагодзьдзі", дзе старшынствавала Івонка Сурвілла (БІНіМ-Канада). На першай сэкцыі выступіла дасьледчыца з Швэцыі Барбара Торнквіст-Плева з дакладам "Мова ў будаўніцтве беларускай нацыі", у якім разглядалася роля моўнага фактару ў фармаваньні беларускай нацыянальнай сьведамасьці найноўшага часу.

Дасьледчык зь Беларусі Сяргей Запрудзкі ў дакладзе "Суб'ектыўная этнамоўная жыцьцёвасьць і ідэнтычнасьць: некалькі беларуска-ўкраінскіх параўнаньняў" зрабіў аналіз стану функцыянаваньня беларускай і ўкраінскай моваў у сучасных Беларусі й Украіне.

Дыскутант Ірына Лысенка з Карлтанскага ўнівэрсытэту (Канада) падсумавала выступы і паставіла пытаньні выступоўцам. Яна ў прыватнасьці адзначыла, што вялікая колькасьць зборнікаў беларускай навуковай тэрміналёгіі, складзеных у 1920-я г.г. ёсьць неабвержным аргумантам супраць заяваў пра быццам няздатнасьць беларускай мовы да ўжытку ў навуковым і адміністрацыйным дыскурсе. Гэта пытаньне хутчэй палітычнае, чымся лінгвістычнае, што добра паказваюць падзеі як 1920-1930 гг., калі справа беларусізацыі была гвалтоўна перарваная, так і падзеі апошняга часу ў Рэспубліцы Беларусі, дзе гэтак-жа гвалтоўна ўлады ўціскаюць беларускасьць і працягваюць палітыку русыфікацыі. Дыскусія была працягнутая ў адказах на пытаньні ад прысутных на сэкцыі. Дасьледчыкі Антаніна Бэрэзавенка і Ніклас Бэрнсанд абмяркавалі пытаньні, зьвязаныя з аналягам беларускай «трасянкі»—украінскім «суржыкам».

Сэкцыя "Беларуска-гэбрайскія адносіны" пачалася дакладам Зіны Гімпелевіч з Ватэрлускага ўнівэрсытэту (Канада): "Беларускія пісьменьнікі гэбрайскага паходжаньня". Выступоўца дала кароткі аналіз беларуска-гэбрайскіх культурных узаемадачыненьняў і спынілася на творчасьці пісьменьнікаў-гэбраяў, што пісалі па-беларуску. Дасьледчыца з Вартбург-калэджу (ЗША) Марыя-Паўля Сурвілла выступіла з дакладам "Культурніцкі абмен і запазычаньні: прысутнасьць беларускай клэзмерскай традыцыі", дзе былі прааналізаваныя ўплывы беларускай народнай музыкі на традыцыю гэбрайскіх выканаўцаў-клэзмераў. Сёньня клэзмерская музыка надзвычай папулярная ў ЗША і Заходняй Эўропе, ёсьць выканаўцы-клэзмеры і ў Беларусі.

Віталь Зайка з Нью Ёрскага Інстытуту гэбрайскіх студыяў IBO прадставіў даклад "Беларуская і гэбрайская нацыянальная тоеснасьць: зводныя сёстры?". Выступоўца адзначыў падабенства ў разьвіцьці мадэрнага нацыянальнага руху сярод беларусаў і сярод гэбраяў Беларусі, і падкрэсьліў неабходнасьць разьвіцьця параўнальных досьледаў беларускага і гэбрайскага нацыяналізму, якія хаваюць у сабе нескарыстаныя рэсурсы і магчымасьці для пашырэньня ведаў пра абодва народы ў разнастайных аспэктах. Івонка Сурвілла ў падсумаваньні выступаў адзначыла, што разгляд беларуска-гэбрайскіх дачыненьняў ёсьць надзвычай плённым для ведаў пра Беларусь і мусіць быць пашыраны і скарыстаны на карысьць узаемаразуменьня паміж народамі і навукоўцамі.

На Канферэнцыі прайшлі таксама сэкцыйныя паседжаньні, што ўскосна закраналі беларускую тэматыку або мелі цікавасьць з пункту гледжаньня беларусазнаўства. Сярод іх быў круглы стол "Рутэнская мова ў кантэксьце: аспэкты сацыяльных, культурных, рэлігійных і лінгвістычных узаемадачыненьняў". Назва "рутэнская мова" ў апошні час атрымала распаўсюджаньне сярод заходніх славістаў пры разглядзе старабеларускай і стараўкраінскай моваў. Гэтая назва ўжываецца паралельна з гэтымі тэрмі-

*Працяг на бачыне 2*

# Пікет у Гаазе

У галяндзкім горадзе Гаага 25 лістапада адбыўся пікет, арганізаваны Беларускай Уніяй. Акцыя была прымеркаваная да саміту "Эўразьвяз - Расея", які праходзіў гэтым днём у палацы Ridderzaal Binnenhof. Удзел у ім прымаў расейскі прэзыдэнт У. Пуцін. Акцыя праходзіла пад лёзунгам "Расея! Стоп падтрымцы беларускага дыктатара!".

З дазволу мясцовай паліцыі пікет праходзіў каля галоўнага ўваходу рэзыдэнцыі.

Вялікую зацікаўленасьць акцыя пратэсту выклікала ў сусьветных сродкаў масавай інфармацыі, якія ў гэты дзень асьвятлялі праходзячы саміт. Да пікетоўцаў падыходзілі ды бралі інтэрв'ю тэлежурналісты нямецкага тэлеканала ARD, галяндзкага, французскага ды ангельскага ТБ. Акром таго там былі журналісты газэтаў. Трохі пазьней стала вядома аб паказаным пра акцыю рэпартажы па навіноваму тэлеканалу CNN.

Пікетоўцы трымалі ў руках нацыянальныя сьцягі, плякаты рознага зьместу, раздавалі ўлёткі з інфармацыяй аб зьніклых у Беларусі людзях.

У пікеце ўзялі ўдзел сябры БЭЗу, жонка зьніклага журналіста З. Завадзкага Сьвятлана і прадстаўнік Эўрапейскай каліцыі "Свабодная Беларусь" В. Стужынская. Таксама далучыліся прадстаўнікі украінскай дыяспары, якія ў гэты дзень ладзілі акцыю пратэсту ля расейскай амбасады ў Гаазе.

Апошняя частка акцыі прайшла ў выглядзе шэсьця вакол рэзыдэнцыі й выклікала дадатковую зацікаўленасьць як з боку мінакоў так і збоку журналістаў расейскіх тэлеканалаў ОРТ і РТР.

*БЭЗ-Інфа*




# Падзеі ў Сыднэі

За апошнія больш як 30 гадоў усё беларускае жыцьцё ў Сыднэі базавалася вакол Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу. У лепшыя часы адразу пасьля рэгістрацыі колькасьць сябраў Клюбу даходзіла да 200 чалавек, была пэрспэктыва і надзея разбудавацца, але, як заўсёды ў нас здараецца, не хапіла салідарнасьці, а час не чакаў.

За апошнія гады колькасьць сяброў зьнізілася да 65, 90% зь іх ужо на восьмым дзесятку гадоў. Управа Клюбу занепакоілася такім станам рэчаў і склікала надзвычайны сход, які адбыўся 30 траўня 2004 году. На сходзе былі высунутыя дзьве прапановы:

- прадаць Клюб, грошы інвэставаць і з працэнтаў весьці нашую справу;
- аб'яднацца з праваслаўнай царквою (не БАПЦ) і пабудаваць будынак на іхняй зямлі;

Агульнае пачуцьцё на сходзе было: затрымаць нашую "хатку" яшчэ на год. Так было і вырашана. Праз год зноў-жа агульны сход будзе вырашаць будучыню нашага Клюбу. Цікава дадаць, што чатыры асобы з-за мяжы, якія наведваліся да нас, таксама супраць продажы маёмасьці.

* * *

У нядзелю 26 верасьня 2004 году адбыўся агульны перавыбарчы сход сяброў Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі. На парадку дня былі - справаздачы, дыскусіі, выбары новай управы і бягучыя справы.

Даўжэйшая дыскусія была адносна пляну працы на наступны год. У новую ўправу ўвайшлі: М. Лужынскі - старшыня; Мікола Антух - заступнік старшыні й сакратар; др. С. Легенчанка - культурны рэфэрэнт; а. Ігар Хлябіч, Віктар Ліпскі, Вячаслаў Эльхановіч - сябры ўправы. Усе пажадалі новаабранай управе посьпехаў у працы.

Сход закончыўся агульным абедам

*Міхась ЛУЖЫНСКІ*

# Паседжаньне Асацыяцыі Беларускіх Студыяў

У Гарвардзкім унівэрсытэце 6 сьнежня адбылося паседжаньне Паўночна-Амэрыканскай Асацыяцыі Беларускіх Студыяў (ПААБС, NA-ABS). Старшыня Асацыяцыі сп. Курт Вулгайзер абвесьціў пра маючыя адбыцца выбары новага складу кіраўніцтва Асацыяцыі. Затым былі абмеркаваныя ўзаемадачыненьні з Амэрыканскай Асацыяцыяй Разьвіцьця Славістычных Студыяў (AAASS) і патрэба афіцыйнага далучэньня дае дзеля больш шырокай прэзэнтацыі беларускай тэматыкі на імпрэзах AAASS. Таксама абмяркоўвалася неабходнасьць выдаваць Бюлетэнь Асацыяцыі, рэдагаваньне якога можна даручыць асьпіранту па тэматыцы, зьвязанай зь беларускімі студыямі. Бюлетэнь улучаў-бы навіны, узнагароды, публікацыі, канфэрэнцыі й гэтак далей. Асобнай часткай магла-б быць бібліяграфія па беларусістыцы, па ўзору некалі друкаванай ў часапісе "Кантакты і Дыялёгі". Адносна сайту ПААБС у сеціве (belarusianstudies.org) было адзначана, што ён патрабуе ўдасканаленьня і пашырэньня, уключэньня тэкстаў, малюнкаў і выяваў. У пэрспэктыве магчыма стварыць сеціўную энцыклапэдыю беларусазнаўства па-ангельску.

Затым была заслуханая фінансавая справаздача і разгледжаныя пытаньні, зьвязаныя з Узнагародай Памяці Зоры Кіпель. Было таксама абмеркавана пытаньне аб стварэньні з рэсурсаў Асацыяцыі асобных мэтавых фондаў, у якія можна было-б аб'яўляць дадатковы дабрачынны збор. Прыкладам гэтага могбы стаць фонд перакладу беларускай паэзіі (чым, дарэчы, шмат год займаецца спн. Вера Рыч у Англіі) або фонд для фінансаваньня падарожжа беларускіх навукоўцаў.

Сп. Вулгайзер паведаміў пра падрыхтоўку сымпозыюму па беларускім тэатры, літаратуры й музыцы, прытарнаваным да прыезду ў Гарвард Дзяржаўнага Тэатру імя Якуба Коласа зь Віцебску ў верасьні-кастрычніку 2005 году, што прывязе дзьве пастаноўкі па-беларуску, і заклікаў падумаць пра магчымыя даклады й прэзэнтацыі (фільмы, візуальныя матар'ялы і г.д.) на вышэйпазначаную тэматыку.

*Віталь ЗАЙКА*

## Канфэрэнцыя славістаў

*Працяг з бач. 1*

намі, а таксама з тэрмінамі "проста мова", "русінская мова". На круглым стале выступілі навукоўцы з Брытаніі, ЗША і Аўстрыі. Міхаэль Мозэр з Венскага ўнівэрсытэту на падставе дыяхранічнага і сынхранічнага аналізу спрабаваў давесьці, што сынтаксіс рутэнская важна польскі, але ягоная аргумэнтацыя, на думку калегаў, не была пераканаўчая і мела хібы.

Стэфан Паг з шкоцкага ўнівэрсытэту Сэйнт-Андрус спыніўся на разглядзе назваў, ужываных для старабеларускай і стараўкраінскай моваў, і на пытаньні самаідэнтыфікацыі ў позьнім сярэднявеччы на беларускіх і ўкраінскіх землях. Назва "рутэнская" сёньня прытарнаваная для называньня больш агульнай зьявы і абыходзіць пытаньне варыянтаў (беларускага ці ўкраінскага), якія незаўсёды можна з дакладнасьцю выявіць. Пры гэтым яна пазьбягае блытаньня з мовай расейскай, як у выпадку "заходнярускай мовы"—назвы, высунутай расейскімі дасьледчыкамі.

Юлія Верхаланцаў з Пэнсыльванскага ўнівэрсытэту спынілася на параўнаньні чэскіх уплываў на польскую і рутэнскую мовы ў розных стылістычных формах і адзначыла патрэбу далучыць да вывучэньня існуючыя ўзоры не толькі літаратурнай, але і гутарковай мовы 16-га стагодзьдзя і багемізмы ў мовах польскай, беларускай і украінскай.

Роберт Раманчук з Флярыдзкага ўнівэрсытэту разгледзеў пераклады на рутэнскую мову некаторых гэбрайскіх трактатаў, зробленых, як ён лічыць, юдаізантамі, але шырока ўжываных у афіцыйных матар'ялах праваслаўнай царквы на беларускіх і ўкраінскіх землях.

Пэўную цікавасьць уяўляў круглы стол па кнізе Эдварда Кінана (Edward Keenan) з Гарвардскага ўнівэрсытэту "Ёзаф Добраўскі і паходжаньне 'Аповесьці пра Ігара' ("Слова пра паход Ігаравы")". Як вядома, ён лічыцца фактычна першым творам расейскай літаратуры і ўважаецца (прынамсі расейцамі) за адзін з найлепшых прыкладаў сярэднявечнай літаратуры наагул. Напачатку аўтар, Э. Кінан, сьцісла выклаў свае аргумэнты пра тое, што славутае расейскае «Слово о полку Игореве» на самой справе не "выдатны твор старажытнарускай літаратуры 12-га стагодзьдзя", а літаратурная падробка кшталту "Песьні Асіяну" шкота Макфэрсана ці "Краледворскага рукапісу" чэха Вацлава Ганкі (дарэчы, вучня Ё. Добраўскага). На думку Кінана, "Слова пра паход Ігаравы" было створана выдатным славістам, чэхам Ёзафам Добраўскім у час, блізкі да часу яго наведаньня Расеі ў 1792 годзе, калі ён меў кантакты з сябрамі гуртка графа Мусіна-Пушкіна, якія неўзабаве пасьля візыту Добраўскага аб'явілі аб знаходцы невядомага раней рукапісу 12-га стагодзьдзя "Слова пра паход Ігаравы", які быў апублікаваны ў 1800 годзе. Надзвычай кампэтэнтны знаўца стараславянскай мовы, прыхільнік славянскага адзінства і рамантызму, Добраўскі надзвычай добра ўпісваецца ў гіпатэтычны партрэт аўтара "Слова", пра які казаў яшчэ слáвуты філёляг Раман Якабсон.

У дыскусіі траплялiся цікавыя факты, як, прыкладам, паведамленьне аб паметах Ё. Добраўскага на выданьнях Францішка Скарыны, а таксама цытата зь ліста расейскага філёляга Дз. Ліхачова да гісторыка Б. Рыбакова пра небясьпеку аналізу аўтарства "Слова": "Пытаньне аб "Слове" - нацыянальнага значэньня, і нельга даваць замежжу падставу ставіць пад сумніў ягоную аўтэнтычнасьць". Хоць паходжаньне "Слова" пакуль ня можа быць з пэўнасьцю ўсталяванае, абставіны дзеяньня расейскага гуртка Мусіна-Пушкіна паказваюць, што ў канцы 18-га стагодзьдзя расейцы імкнуліся даказаць годнасьць і вартасьць сваёй мовы і культуры. Варта прыгадаць, што ў Расеі ў навуковым ужытку тады дамінавалі нямецкая мова і лаціна, а этнічны склад Расейскай Акадэміі Навук на 90% (!) быў нерасейскі. Гэтыя факты могуць сьмела быць скарыстаныя для падтрымкі разьвіцьця беларускай мовы і культуры, годнасьць і вартасьць якой, нажаль, сёньня трэба даказваць у сваім доме — як некалі мове расейскай.

Спарадычную цікавасьць мелі шматлікія іншыя паасобныя даклады, як: аб курсе Пуціна і зьнешняй палітыцы Расейскай Фэдэрацыі, кульце асобы Сталіна, моўнай палітыцы ва Украіне, выкладаньні гісторыі СССР у пост-савецкіх краінах, будове нацыяў ва Ўсходняй Эўропе, рэлігіі й нацыянальнай тоеснасьці й шмат чаго яшчэ іншага.

Актыўнейшае супрацоўніцтва беларускіх навукоўцаў з AAASS і ўдзел у канфэрэнцыях спрыялі-б большай увазе да беларусазнаўчай і зьвязанай зь Беларусьсю тэматыкі.

*Віталь ЗАЙКА*



*Удзельнікі канфэрэнцыі падчас паседжаньня.*

# Беларусь за месяц

## Марыніча асудзілі

Напярэдадні Новага году ў Беларусі адбыўся гучны палітычны працэс. Палітык і грамадзкі дзеяч, экс-міністар зьнешнеэканамічных сувязяў, пасол Беларусі ў Латвіі, Эстоніі й Фінляндыі Міхаіл Марыніч быў асуджаны на пяць гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Працэс праходзіў у судзе Менскага раёну (пракурор – Аляксандар Нікулін, судзьдзя – Людміла Даўжэнка).

Марыніча прызналі вінаватым у "завалоданьні аргтэхнікай амбасады ЗША, якая была бязвыплатна перададзеная ў часовае карыстаньне ўзначальванай ім грамадзкай арганізацыі "Дзелавая ініцыятыва" (частка 4, арт. 210 Крымінальнага кодэксу — крадзёж шляхам злоўжываньня паўнамоцтвамі, учынены групай ці ў асабліва буйным памеры). Абвінавачаньне ў захоўваньні зброі было зьнята праз недастаковасьць улікаў.

Пракурор прасіў шэсьць гадоў калёніі строгага рэжыму, далі пяць гадоў узмоцненага. І гэта нягледзячы на тое, што амбасада ЗША афіцыйна распаўсюдзіла прэс-рэліз, што ня мае прэтэнзій наконт кампутэрнай тэхнікі, і што за Марыніча заступілася прэзыдэнт Латвіі Вайра Віке-Фрэйбэрга ды міністар замежных справаў краіны Арціс Пабрыкс. Усё дарэмна. Паступіў указ зьверху – асудзілі.

10 студзеня Марыніч накіраваў у Менскі абласны суд касацыйную скаргу. Але шанцаў на перагляд справы мала.

Таксама ў пачатку студзеня ў цэнтры беларускае сталіцы быў затрыманы актывіст моладзевага руху "Зубр" Мікіта Сасім. Яго вінавацяць у расьпісваньні сьценаў лёзунгамі "Свабоду Марынічу". Хлопцу пагражае артыкул крымінальнага кодэксу "Псаваньне матар'яльных аб'ектаў".

## Чарговы крызыс сацыял-дэмакратаў

Канец году "парадаваў" чарговым крызысам у дэмакратычным асяродзьдзі, гэтым разам зноў у шэрагах сацыял-дэмакратаў. Спачатку старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" Мікола Статкевіч 24 лістапада падпісаў разам зь Беларускай партыяй жанчын "Надзея" і грамадзкім аб'яднаньнем прадпрымальнікаў "Пэрспэктыва" дэкларацыю аб стварэньні аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі. Нагадаем, што тры гады таму апанэнты Статкевіча спрабавалі стварыць партыю з аналягічнай назвай, але Мінюст не зарэгістраваў яе, і яны далучыліся да Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, якую ўзначальвае Станіслаў Шушкевіч.

8 сьнежня Менскі гаркам БСДП "НГ", у якім ўдзельнічалі толькі 4 з 12 сябраў камітэту, спыніў сяброўства ў партыі намесьнікаў Статкевіча — Уладзімера Нісьцюка, Віталя Малашкі, Юрыя Маркоўскага. 11 сьнежня на паседжаньні Менскага гаркама партыі, але ўжо зь іншым складам, у ім удзельнічалі 7 з 12 сябраў, Статкевіча выключылі з шэрагаў партыі "за сыстэматычнае парушэньне статуту партыі й сэпаратныя перамовы".

Праз месяц Міністэрства юстыцыі прызнала законным выключэньне Статкевіча з шэрагаў БСДП "НГ". Выканаўцам абавязкаў старшыні партыі прызначаны першы намесьнік Уладзімер Нісьцюк. Статкевіч заявіў, што дзяржава найгрубейшым чынам умяшалася ў справы партыі, і ён гэтаму не падпарадкуецца. Але кропка ў крызысе ў БСДП яшчэ не пастаўленая: на 15 студзеня прызначаны пазачарговы зьезд БСДП (НГ).

## Наступствы бурану,

што праняўся 8-9 студзеня над Паўночнай Эўропай зачапіў і Беларусь, найперш паўночна-заходнія рэгіёны. Паводле зьвестак Міністэрства па надзвычайных сытуацыях, вецер, парывы якога дасягалі 25-30 м/с, нарабіў бяды 1 100 населеным пунктам. Пашкоджаныя сельскагаспадарчыя будынкі, дахі дамоў, абясточаныя вёскі. У Віцебску вецер паваліў навагоднюю ялінку.

Нажаль, не абышлося без ахвяраў. У Гарадоцкім раёне (Віцебшчына) загінулі двое рабочых, 20 і 62 гадоў, якія рамантавалі лінію электраперадачы. А ў Докшыцкім раёне дрэва ўпала і нанесла чэрапна-мазгавую траўму 46-гадовай жанчыне.

## Рэкорд тэмпэратуры

11 студзеня ў Менску былі пастаўлены абсалютны рэкорд тэмпэратуры студзеня за апошнія 100 год. Удзень ртутны слупок дасягнуў 9,2 градуса цяпла паводле шкалы Цэльсія (48,5 Фарэнгейту). Заолягі цьвердзяць, што ад незвычайна цёплага надвор'я прачнуліся мядзьведзі, барсукі, вожыкі. У Бярэзінскім запаведніку затакавалі цецярукі.

## Навіны гакею

6—9 студзеня ў Менску прайшоў І Калядны гакейны турнір сярод аматараў на прызы прэзыдэнта Беларусі. Ніхто і не сумняваўся, што першае месца зойме каманда Лукашэнкі, якая ў фінальным матчы выйграла у зборнай Расеі зь лікам 11:5.

Турнір шырака рэклямаваўся ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі як сур'ёзны гакейны кубак. Ну калі ня Кубак Стэнлі, але, прынамсі, з чэмпіянатам сьвету па гакеі ў элітным дывізіёне можна сьмела параўнаць. Натуральна, што найлепшым гульцом турніру афіцыйныя СМІ назвалі кіраўніка РБ.

Што тычыцца сапраўднага гакею, то беларуская маладзёвая зборная ня здолела ўтрымаць месца ў сусьветнай эліце, куды прабілася год таму. Выхаванцы Міхаіла Захарава прайгралі пяць матчаў з шасьці – перамаглі толькі зборную ЗША – і занялі апошняе, 10-е месца. Па сканчэньні чэмпіянату Захараў падаў у адстаўку.

## Ліцэй вярнуўся

Скончылася віленская сэсія навучэнцаў зачыненага ўладамі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа, якая цягам трох тыдняў доўжылася ў летувіскай сталіцы. Заняткі (усяго было праведзена 700 урокаў) адбываліся ў памешканьні Віленскага ліцэю, а жылі ліцэісты й выкладчыкі ў інтэрнаце Літоўскага дому. Апроч таго былі вандроўкі па Вільні, паездкі ў Коўню і Трокі, сьвяткаваньне Калядаў і Новага году, інтэрв'ю на радыё і тэлебачаньні.

## Уручэньне прэміяў

На пачатку году адбылося ўручэньне традыцыйных прэміяў "За духоўнае адраджэньне" і спэцыяльных прэміяў прэзыдэнта дзеячам культуры й мастацтва за 2004 год. Прэміяй "За духоўнае адраджэньне" ганараваны дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" Таіса Бондар, аўтар фотаальбому "Спадчына Беларусі" Алег Лукашэвіч, пробашч касьцёла ў Мосары Глыбоцкага раёна ксёндз Юозас Булька, вядомы таксама сваім антыалкагольным музеем.

Атрымаў спэцыяльную прэмію ў галіне "кіно і тэлебачаньне" кіраўнік прэс-службы Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Юры Азаронак – за фільм "Канспіралогія", які дэманстраваўся па БТ і ў якім у вельмі нэгатыўным сьвятле былі паказаныя беларускія дэмакратычныя сілы.

Памер прэміі – 100 базавых велічыняў (каля $1100.)

## Рэвалюцыяў ня будзе

У Беларусі ня будзе ніякіх рэвалюцыяў – "ні ружовых", ні "памаранчавых", "ні бананавых". Гэта заявіў 7 студзеня Аляксандар Лукашэнка падчас традыцыйнай Багаслужбы ў Сьвята-Духавым катэдральным саборы.

Паводле ягоных словаў, да яго зьвярнулася група кіраўнікоў праваслаўнай царквы, што выступаюць за стабільнасьць у Беларусі і вельмі заклапочаныя сытуацыяй ва Украіне. Прэзыдэнт, зьвяртаючыся пасярод храма да вернікаў, заявіў: "Жывіце мірна і спакойна. Галоўная задача прэзыдэнта – гарантаваць мір, бясьпеку для вас, вашых дзяцей, родных і блізкіх і гэта будзе гарантавана, колькі-б гэта ні каштавала".

## Навіны эканомікі

З 1 студзеня мінімальны заробак у Беларусі складае 128 860 рублёў (59 даляраў), ці 750 рублёў у гадзіну ($0,35). Павышаны зь 1 студзеня памер аднаразовае дапамогі пры нараджэньні трэцяга і наступных дзяцей. Цяпер дапамога будзе складаць 408 тыс. рублёў (188 даляраў).

Са студзеня ў Беларусі пачынаецца кампанія па дэкляраваньні даходаў за 2004 год. Падаваць сёлета дэклярацыю ў падатковую службу трэба ў тым выпадку, калі сукупны гадавы даход, атрыманы з двух і болей крыніцаў, склаў больш за 4 мільёны 650 тысяч рублёў ($ 2140). Тым часам паводле курсу на 1 студзеня курс амэрыканскага даляра да беларускага рубля раўняўся 2 170 рублям. На 31 сьнежня аналягічны курс быў 2 156 рублёў. Намінальна даляр падаражэў на 0,65 працэнта. Паводле статыстыкі, цэны за год вырасьлі на 14 адсоткаў, паводле ацэнак спэцыялістаў – на 30-40 адсоткаў.

## Новыя "Запісы"

Падрыхтаваны да друку чарговы – 28-ы – нумар часапісу "Запісы БІНіМ", які мае пабачыць сьвет увесну. Гэты нумар прысьвечаны старшыні БІНІМу доктару Вітаўту Кіпелю.

Сярод матар'ялаў — "Бібліяграфія Вітаўта Кіпеля", артыкулы Ірыны Багдановіч "Уладзімер Дубоўка й паэтыка "Ўзвышша", Алега Гардзіенкі "Беларуская Цэнтральная Рада (1944 – 1945)", Юрыя Гарбінскага "Гісторыя БАПЦ: крыніцы дасьледаваньня", Лявона Вашка "Быта ілюстрацыя жывога інябыту". Разьдзел "Архівалії" зьмяшчае публікацыі пратаколу мовазнаўчай канфэрэнцыі 1942 году, вершаў Янкі Золака 1945 году, матар'ялаў да гісторыі беларускай нацыянальнай партызанкі пры канцы 40-х г.г. ды паваенная эміграцыі. У разьдзеле "Эпістолярый" друкуюцца лісты Васіля Захаркі, Аляксандра Асіпчыка, Натальлі Арсеньневай, Зінаіды Кадняк ды інш. У разьдзеле "Літаратура" — апошняя частка "Зацемак" Янкі Юхнаўца і публікацыя вершаў Зьніча (Алега Бембеля). Ёсьць разьдзелы "Публікацыі", "Кніжны агляд", "Хроніка навукова-культурнага жыцьця ў замежжы", "Лісты ў рэдакцыю".

*Уласны карэспандэнт*

## Вольскі прыедзе

Праз некалькі тыдняў пасьля адмовы Лявону Вольскаму ў амэрыканскай візе, амбасада Злучаных Штатаў перагледзела сваё рашэньне і дазволіла музыку ўезд у "казачную краіну".

Адмена канцэрту Вольскага, які плянаваўся на 7 сьнежня 2004 году ў штаце Дэлавэр, выклікала буру адмоўных эмоцыяў сярод прыхільнікаў беларускай музыкі ў Амэрыцы, якія зь нецярпеньнем чакалі сустрэчы з самым знакамітым дзеячом сучаснай беларускай рок-культуры. Прадстаўнікі амбасады ЗША ў Беларусі совечасова разабраліся ў непаразуменьні ды запрасілі музыку на паўторную гутарку.

Нажаль, дастаткова шчыльны канцэртовы графік дазволіць Лявону Вольскаму парадаваць беларуска-амэрыканскую публіку не раней як напачатку сакавіка будучага года. Заплянаваныя адразу некалькі дабрачынных канцэртаў-сустрэчаў у шэрагу гарадоў Злучаных Штатаў.

*http://www.slyhap.com*

# "Беларусы Аўстраліі" Натальлі Гардзіенкі

Пад канец году ў Бібліятэцы Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" выйшла кніга кандыдата гістарычных навук, рэдактара часопісу "Запісы БІНіМ" Натальлі Гардзіенкі "Беларусы Аўстраліі: да гісторыі дыяспары".

Добра ілюстраваная манаграфія налічвае 468 старонак і складаецца з наступных разьдзелаў: "Беларуская іміграцыя й дыяспара ў Аўстраліі як аб'екты гістарычнага дасьледаваньня", "У сьвятле сьвяце міграцыйнай палітыкі", "Паўстагодзьдзя беларускае Аўстраліі", "Жанчыны беларускае дыяспары", "Аўстралія ў беларускіх вершах". У разьдзеле "Лёсы беларусаў і беларусак Аўстраліі ва ўспамінах і лістах" аўтарка выдрукавала ўспаміны больш як 20 жанчын, а таксама Міхася Лужынскага, Алега Шнэка, Аўгена Грушы, Міхася Раецкага, Уладзімера Русака. Біяграфічны паказьнік зьмяшчае пад сто біяграм самых вядомых беларусаў Аўстраліі, прыводзіцца сьпіс беларускіх кніг і перыядычных выданьняў, хроніка беларускага жыцьця. Прадмову да кнігі напісала старшыня Рады БНР сп-ня Івонка Сурвілла.

Сп-ня Сурвілла ў прыватнасьці зазначае: "Праца Натальлі Гардзіенкі ўключае ўсе аспэкты беларускага жыцьця ў Аўстраліі: ад першых крокаў да набыцьця грамадзкай маёмасьці, ад сямейнага жыцьця – а хто пра яго мог лепей расказаць, як жанчыны й маткі, — да грамадзкай дзейнасьці, ад непаразуменьняў да памяркоўнасьці семідзесятых і васьмідзесятых гадоў, калі людзі нарэшце зразумелі, што тое, што іх лучыць, куды важнейшае за тое, што іх дзеліць, і пачалі шукаць супольнае мовы... Спадзяюся, што працу сваю аўтарка неадкладна прадоўжыць і ў іншых краінах, дзе спыніліся шляхі нашых суродзічаў. А тым часам, Натальля




Гардзіенка дадала надзвычай вартасны разьдзел да дыялёгу між двума неад'емнымі часткамі беларускага народу, той, якой пашчасьціла пражыць жыцьцё на зямлі сваіх продкаў, з аднаго бок, і з дыяспарай – з другога".

Натальля Гардзіенка кажа, што кніга задумвалася, як выключна манаграфія аб беларускіх жанчынах Аўстраліі, але вырасла ў агульнае дасьледаваньне аб усёй беларускай грамадзе.

Наконт пытаньня набыцьця кнігі зьвяртацца на электронны адрас ці на тэлефон у Менску (ЗБС "Бацькаўшчына") +375-17-226-87-37.

# Сьвята калядных ялінак у Чыкага

Гэта сталася ўжо добрай традыцыяй: вось ужо некалькі гадоў запар у Чыкагскім Музэі навукі і індустрыі напярэдадні калядных сьвятаў адкрываецца арыгінальная выстава. У вялізнай зале ўнікальнага архітэктурнага помніка канца XIXст. выстаўляюцца незвычайныя экспанаты: сьвяточныя ялінкі, кожная зь якіх упрыгожана прадстаўнікамі розных эміграцкіх групаў, якія жывуць сёньня ў Чыкага. Усё гэта зроблена ў адпаведнасьці з нацыянальнымі й рэлігійнымі традыцыямі, мастацкімі густамі. Усе ялінкі – а іх выстаўлена болей за 50 – непаўторныя, як непаўторная душа кожнага народу, ягоная мова, гісторыя і культура. Ля кожнай ялінкі – назва краіны, зь якой гэтая эміграцкая этнічная група: Аргэнтына, Бэльгія, Беларусь, Латвія, Люксэмбург, Летува, Нарвэгія, Нямеччына, Швэцыя, Харватыя, Францыя, Японія...

Шмат наведвальнікаў заўсёды каля беларускай ялінкі. Яна прыцягвае ўвагу арыгінальнымі ўпрыгожваньнямі, зробленымі з саломкі – традыцыйнага віду беларускай народнай аздобы. Кожная з гэтых шматлікіх цацак мае адмысловы дызайн і аніводная не паўтараецца.

Праграма гэтай незвычайнай экспазыцыі прадугледжвае ня толькі агляд ялінак. Кожная група мае магчымасьць паказаць тут свой канцэрт альбо тэатралізаванае прадстаўленьне. Сёлета менавіта беларусы былі ганарова запрошаныя першымі адкрыць сьвяточную праграму. 2 студзеня тут з канцэртам выступіў беларускі дзіцячы музычна-танцавальны ансамбаль "Харошкі", створаны канцэртмайстрам і пэдагогам Ірынай Грыгаровіч у яе дзіцячым садку.

Удзельнікі ансамблю яшчэ зусім юныя. Сем гадоў старэйшаму, чатыры –наймалодшаму. Рычард Наўрузаў, Джэйкаб Келензан, Алесь Грыгаровіч, Віка Берман, Андрэй Вераб'ёў, Саня Нікіцін... Аснову праграмы склалі беларускія народныя сьпевы й танцы. Але юныя выканаўцы пасьпелі паказаць таксама кампазыцыі польскія, гэбрайскія, цыганскія, расейскія... У цэнтры многіх нумароў была чароўная Віка Берман – адна сярод уважлівых хлопчыкаў-партнёраў. Ірына Грыгаровіч акампанiравала юным танцорам на цымбалах, Уладзімір Вераб'ёў – на баяне.

Сымбалічна, што менавіта беларуская праграма распачала навагоднія дні тут, сярод ялінак са ўсяго сьвету, ялінак, якія такія непаўторныя і такія адзіныя ў сваім імкненьні несьці ўсім людзям на зямлі мір, спакой і шчасьце.

*Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ*



# Угодкі Слуцкага Збройнага Чыну

## Рада Беларускае Народнае Рэспублікі Прэзыдыюм
## На ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну



Дарагія суродзічы,

Было іх ня больш за дзесяць тысячаў чалавек у той слаўнай Слуцкай брыгадзе БНР, якая 27 лістапада 1920 году стала на абарону Бацькаўшчыны. Сёньня беларусы па ўсім сьвеце з удзячнасьцю адзначаюць іхную памяць. Бо тыя дзесяць тысячаў патрыётаў-герояў зразумелі, што толькі ў вольнай Беларусі зможа наш народ жыць годна і шчасьліва. І вырашылі "жыць для Беларусі або зусім ня жыць", як прыгожа напісала пазьней Ларыса Геніюш.

Дык вітаю Вас у гэтыя 84-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня! Бо Слуцкім Збройным Чынам мае права ганарыцца ня толькі кожны случчак, але і кожны беларус.

Спадзяюся, што ўсе мы дачакаемся тае пары, калі Беларускі Дзень Герояў станецца агульным нацыянальным сьвятам. А ў міжчасьсе, прашу Вас як на Бацькаўшчыне, гэтакі тых, хто далёка ад яе,прыпомніць сьвецкай урачыстасьцю і малітвай 27 лістапада герояў, што 84 гады таму "ішлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

Жыве Беларусь!

*Івонка СУРВІЛЛА, Старшыня Рады БНР*

## Англія

У суботу 27 лістапада 2004 году ў залі Беларускага культурна-рэлігійнага цэнтру на 39 Holden Rd у Лёндане адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 84-м угодкам Слуцкага Збройнага Чыну.

Перад акадэміяй была адслужаная паніхіда за ўсіх герояў, якія аддалі свае жыцьці за Бацькаўшчыну Беларусь. Паніхіду адслужыў а. Аляксандар Надсон у капліцы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла. У рэлігійна-патрыятычнай пропаведзі а. Надсон казаў пра важнасьць для беларускага народу гэтай гадавіны, якая не павінна быць забытая гісторыяй.

Пасьля Багаслужбы й перапынку ў залі адбылася акадэмія. Спн. Лёля Міхалюк, Старшыня Ўправы ЗБВБ прывітала прысутных і сказала прамову. Хвілінаю цішы была ўшанаваная памяць тых, хто паклаў жыцьці за Беларусь.

Было зачытанае прывітаньне ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Зьместоўны даклад пра гісторыю Слуцкага Збройнага Чыну прачытаў сп. Мікола Пачкаеў. Сп. Павал Шаўцоў прачытаў два патрыятычныя вершы.

Потым адбылася дыскусія адносна апошніх палітычных падзеяў у Беларусі й Украіне. Управа ЗБВБ запрапанавала прыняць рэзалюцыю салідарнасьці з украінскай апазыцыяй. Рэзалюцыя была ўхваленая прысутнымі аднагалосна.

Акадэмія скончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Як заўсёды, жанчынамі быў прыгатаваны пачастунак. Пры чарцы віна хутка праляцеў час.

*Сільвестар БУДКЕВІЧ*

## Аўстралія
### Сыднэй

У нядзелю 28 лістапада беларусы Сыднэю і ваколіцаў адзначалі ўгодкі Слуцкай Абароны. Як заўсёды, урачыстасьць пачалася ў Гомэбушскай праваслаўнай царкве. Пасьля Літургіі а. Ігар Хлябіч адправіў паніхіду па случчаках і ўсіх тых, хто змагаліся і загінулі за свабоду Беларусі.

З царквы дарога ў Беларускі Клюб простая і недалёкая, і сабралася там ладная колькасьць людзей. М. Лужынскі адкрыў сьвяткаваньне кароткім уступным словам, а. др. Слава Легенчанка зрабіла вельмі зьместоўны рэфэрат. Яна распавяла пра Слуцак, пра выбітных случчакоў, крыху пра гісторыю гэтага рэгіёну і дакладна пра геройскі ваенны чын, які хіба трэба называць Слуцкім Фронтам Рады БНР. Выступоўца адзначыла, што случкім ваярам не саступалі ў мужнасьці іхныя маці, жонкі й сёстры. У канцы прагучала: "Жыве Беларусь!"

Пасьля афіцыйнай часткі адбыўся супольны абед, які, як заўжды, зацягнуўся. Пры песьнях, прамовах, успамінах у сяброўскай атмасфэры час прабег імгненна, і ўсё пыталіся, калі будзе наступная імпрэза. Адказ на гэта быў - Новы год.

*М. ЛУЖЫНСКІ*

### Мэльбурн

У нядзелю, 28 лістапада 2004 году, Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй БАПЦ Сьвятых Віленскіх Пакутнікаў адзначылі 84-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Айцец Аляксандар Кулакоўскі супольна з а. Юрыем пасьля Літургіі адслужылі паніхіду па загінуўшых у гэтай слаўнай падзеі змагарох.

Затым усе прысутныя перайшлі ў прыцаркоўную залю, каб адзначыць гэты слаўны дзень. Старшыня БЦКВ Алег Шнэк прывітаў прысутных, прачытаў імёны адыйшоўшых ад нас у вечнасьць былых беларускіх вайскоўцаў з Аўстраліі й прапанаваў хвілінаю цішы ўшанаваць памяць усіх змагароў, загінуўшых за волю Бацькаўшчыны. Наступна ўсе прысутныя разам адсьпявалі "Сьпі пад курганам герояў". Затым пасьля прачытаньня дасланых прывітаньняў сп. Янка Барысевіч прачытаў вельмі зьместоўны даклад да тэмы дня. Мастацкая частка складалася з дэкламацыі патрыятычных вершаў сп. Аўгенам Грушам, спн. Верай Шайпак. Свой уласны верш "Запавет" (гл. ніжэй) прачытаў сп. Слава Жук. На заканчэньне, як заўсёды, усе разам адсьпявалі наш нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

На другі дзень Дэпартамант іміграцыі, шматкультурных і мясцовых справаў запрасіў прадстаўнікоў беларускай грамадзкасьці на сустрэчу з сп. Полам Смітам, якога прызначылі на працу ў Маскву. У нашай дэлегацыі ўзялі ўдзел сп. сп. А. Груша, А. Шнэк і С. Жук. Сустрэча з урадоўцам прайшла ў вельмі прыемнай атмасфэры і на заканчэньне развіталіся з добрымі пажаданьнямі ў далейшым супрацоўніцтве.

*Алег ШНЭК, Старшыня БЦКВ*

## Летува

У Таварыстве Беларускай Культуры ў Летуве 27 лістапада адбылося мерапрыемства, прысьвечанае ўгодкам Слуцкага Збройнага Чыну. Прыйшло каля паўсотні чалавек, тых, хто ведае гістарычнае мінулае беларускага народу і хто цікавіцца новай гісторыяй. Гэтым разам сьвята адзначалі ў новым памешканьні ТБК, старшыня Хведар Нюнька з гонарам паказваў бібліятэку, пакой, у якім кожны месяц зьбіраецца рада, пакой для гасьцей і ўтульную залю, дзе праходзіла мерапрыемства.

Залю ўпрыгожвае герб "Пагоня", бел-чырвона-белы сьцяг, плякаты, зробленыя вядомым віленскім мастаком Алегам Аблажэям "Яны пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь" на адным, на другім напісана "Случкі збройны чын 21-27 лістапада 1920 г."

Ганарыцца ёсьць чым, такое памешканьне мае толькі ТБК у Вільні, у гэтым вялікая заслуга старшыні Хведара Нюнькі. Прыемна і радасна, што кола прыхільнікаў Таварыства пашырылася, прыйшлі студэнты ўнівэрсытэту.

Ганаровым госьцем нашага сьвята быў вядомы гісторык і грамадзкі дзеяч зь Беларусі Алег Трусаў. Ён выступіў перад прысутнымі з грунтоўным дакладам пра Слуцкі Збройны Чын, распавёў пра дзеяньні Булак-Балаховіча і іншых асобаў. У ТБК традыцыйна адзначаецца гэта дата, таму складана было зьдзівіць новай зьвесткай прысутных. Але такія госьці ня часта бываюць зь Беларусі, таму да выступоўцы было шмат пытаньняў і пра палітычныя падзеі ў краіне, і пра апошні рэфэрэндум, і пра падзеі ў сьвеце, і ў прыватнасьці на Ўкраіне.

Напрыканцы імпрэзы саліст Андрусь Старавойтаў выканаў некалькі палітычных песень. Ніхто не сьпяшаўся разыходзіцца, за кубкам гарбаты яшчэ доўга працягвалася сяброўская бяседа, абмяркоўвалі пляны на будучы месяц. Такія сустрэчы гуртуюць, зьбліжаюць.

Наступная сустрэча будзе прысьвечаная вядомаму грамадзкаму і рэлігійнаму дзеячу, беларускаму ксяндзу Адаму Станкевічу, яна адбудзецца 8 студзеня. У 2005 годзе ТБК пляную ў Вільні адкрыць мэмарыяльную таблiцу Адаму Станкевічу.

*Леакадзія МІЛАШ*



# Весткі й Паведамленьні

**ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

**Viestki j Paviedamlenni**

**Belarusan American Association, Inc.**

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org **№1 (468)**


## Сьнежаньскі сход аддзелу

Чарговы сход ньюёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 11 сьнежня. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка прачытаў рэфэрат да 84-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Даўшы кароткі агляд стварэньня Рады Случчыны, фармаваньня Слуцкай брыгады й баявых дзеяньняў супраць наступаючай Чырвонай арміі, прамоўца падкрэсьліў, што значнасьць Слуцкага Збройнага Чыну палягае ў тым, што беларусы аказаліся здольныя зарганізавацца і супольна выступіць на барацьбу супраць пераўзыходзячай зьнешняй сілы. Яны паказалі гатовасьць змагацца за свабоду, нават калі не было шанцаў перамагчы, паказалі духовую моц, якая сёньня так неабходная іхным нашчадкам у Беларусі й на чужыне. Прыклад самаахвярнасьці случчакоў павінен быць узорам для сёнешняга пакаленьня змагароў за вольную Беларусь. Сп. Зайка прачытаў ліст ад Старшыні Рады БНР спн. Івонкі Сурвіллы з прывітаньнем на ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну.

Затым перад прысутнымі выступіў намесьнік Старшыні Рады БНР і супрацоўнік Радыё Свабода сп. Сяргей Навумчык. Ён распавёў пра падзеі ва Ўкраіне, адзначыўшы, што шырокая грамадзянская актыўнасьць украінцаў ёсьць ня вынік палітычных тэхналёгіяў, як гэта спрабуе падаць расейская, а таксама лукашэнкава прапаганда, а сапраўднае выяўленьне волі народу, абуранага фальшаваньнямі й карумпаванасьцю існуючага рэжыму. Адваротны эфэкт меў непрыхаваны і хамскі ціск Масквы. Справа атручаньня кандыдата ад апазыцыі Юшчанкі выклікае шмат пытаньняў да рэжыму Кучмы і да ягоных калегаў у Маскве. Перамога нашых украінскіх братоў будзе таксама і нашай перамогай, бо яна безумоўна наблізіць вызваленьне Беларусі ад дыктатуры й русыфікацыі. Заявы аб патрэбе вываду расейскіх войскаў гучаць ад кіраўніцтва Малдовы. Але ёсьць небясьпека, што, страціўшы ўплыў у навакольных пост-савецкіх краінах, Расея паспрабуе ўзяць рэванш у Беларусі, і таму ейныя дзеяньні на пост-савецкай прасторы мусяць прыцягваць пільную ўвагу міжнароднай супольнасьці, ЗША і Эўразьвязу. Далей сп. Навумчык даў свой аналіз парляманцкіх выбараў і рэфэрэндуму ў Беларусі. Ён адзначыў ролю, якую павінна адыграць беларуская дыяспара ў падтрымцы змаганьня супраць дыктатуры, захаваньня нацыянальных традыцыяў і незалежніцкіх ідэалаў Акту 25 Сакавіка.

З развагамі да ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну выступіў старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, які асабіста ведаў шмат каго з удзельнікаў Чыну і браў удзел у імпрэзах, прысьвечаных случчакам, у 1930-я г.г. у Вільні й на Віленшчыне. Ён параўнаў геразім случчакоў з змаганьнем іншых народаў Эўропы і адзначыў, што Слуцкае паўстаньне належыць да высокіх прыкладаў духовага ўздыму. Яно ёсьць часткаю змаганьня за беларускую незалежнасьць, якое трывае да сёньня.

У разьдзеле "Рознае" з сваімі развагамі адносна патрэбы дапамогі новапрыбылым імігрантам зь Беларусі выступіў сп. Мікола Сагановіч. Ён адзначыў, што людзі, якія атрымалі дапамогу, мусяць наўзаем дапамагчы арганізацыі сваёй падтрымкаю і ўдзелам у ейных імпрэзах і акцыях, інфармаваць пра яе дзейнасьць сяброў і знаёмых.

Прывітаньні ад Амэрыканскага Сусьветнага Патрыярхату і Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы й віншаваньне са Сьвятам Божага Нараджэньня і з Новым Годам перакузаў архіяпіскап Юры.

Далей адбылося знаёмства з людзьмі, якія першы раз прыйшлі на паседжаньне аддзелу. У іх ліку выступілі Іван Кудзін і Вольга Сушко, якія паінфармавалі прысутных пра падзеі вакол Міжнароднага Экалягічнага Ўнівэрсытэту ў Менску, кіраўніцтва якім цалкам перанялі структуры рэжыму Лукашэнкі.

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі сходу прысутныя маглі пры каве, віне і пачастунках калегавацца са знаёмымі й з гасьцямі аддзелу.

***Віталь ЗАЙКА***

### Уплаты ў ньюёркаўскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| Ф. Бартуль | 40 |
| В. Бартуль | 30 |
| С. Кузьміцкі | 30 |
| А. Радзевіч | 30 |
| З. Левіт | 30 |
| Ж. Шкарбанава | 30 |
| С. Масюк | 30 |
| С. Бандарэнка | 30 |
| В. Яськевіч | 30 |
| А. Тальянскі | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Наступны сход** ньюёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 12 лютага 2005 году ў залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

Даезд цягніком падзямкі F да прыпынку *169th St.*

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.***

## ЗВАРОТ да грамадзкасьці

Зьвяртаемся да ўсіх, каму не абыякавы лёс беларусаў Беласточчыны, выказаць салідарнасьць нашым суродзічам у Польшчы – накіраваць Звароты ў абарону правоў беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы на беларускай і ангельскай мовах у польскія ўладныя структуры, а копіі – на адрас тыднёвіка "Ніва" redakcja@niva.iig.pl, факс + 48 85 743 50 22.

Ніжэй падаем адрасы для дасылкі й прыкладныя тэксты Зваротаў, якія можна зьмяняць альбо дапаўняць.

**Aleksander Kwasniewski**
**Prezydent Rzeczypospolitej Polskiej**
**Kancelaria Prezydenta RP**
**Ul.Wiejska 10**
**00-902 Warszawa, Polska**
**listy@prezydent.pl**

**Jozef Oleksy**
**Marszalek Sejmu**
**Kancelarja Sejmu**
**Ul. Wiejska 4/6/8**
**00-902 Warszawa, Polska**
**Jozef.Oleksy@sejm.pl**

**Lodzimierz Cimoszewicz**
**Minister spraw zagranicznych**
**Ministerstwo spraw zagranicznych**
**Al.J.Ch.Szucha 23**
**00-580 Warszawa, Polska**

**Амбасада Рэспублікі Польшча ў Вашай краіне.**

### ЗВАРОТ

Беларуская суполка (назва арганізацыі) у (горад і краіна) з непакоем адсочвае сытуацыю, якая склалася зараз вакол Тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва" (Беласток). Газэта "Ніва" пачынаючы з 1956 году адыгрывае незаменную ролю ў захаваньні беларускай тоеснасьці і незалежнай ідэі ня толькі ў Польшчы, але і ў самой Беларусі. "Ніва" карыстаецца заслужанай павагай у асяродках беларускай дыяспары на ўсіх кантынэнтах.

Нажаль, на Беласточчыне знайшліся сілы, якія распачалі дзеяньні дыскрымінацыйнага характару ў дачыненьні да беларускай меншасьці ў Польшчы. Па сутнасьці ідзе зьнішчэньне штотыднёвіка "Ніва" і праз гэта праяваў нацыянальнага выяўленьня беларусаў у Польшчы. Абвінавачваньне раённай пракуратурай Беласток-Поўдзень управы праграмнай рады тыднёвіка "Ніва" ўспрымаецца намі як форма запалохваньня беларускай грамадзкасьці ў Польшчы з мэтаю выключэньня беларусаў Беласточчыны з палітычнага жыцьця краіны.

Ва ўціску на тыднёвік "Ніва", у праверцы Найвышэйшай кантрольнай палаты школ з дадатковым навучаньнем беларускай мове, у патрабаваньні ад бацькоў штогадовых дэкляраций адносна навучаньня дзяцей на роднай мове бачыцца трывожны сымптом і рэцыдыў палітыкі 1970-х і 1930-х гадоў, калі частка беларускіх адукацыйных установаў у Польшчы была папросту скасаваная, а беларускае пісьменства, мова і школьніцтва апынуліся на мяжы зьнікненьня.

Беларуская суполка (назва арганізацыі) у (горад і краіна) спадзяецца, што вярхоўныя ўлады Польшчы, краіны, якая нядаўна стала паўнавартасным сябрам Эўразьвязу, зьвярнуць увагу на сытуацыю, якая склалася вакол тыднёвіка "Ніва" і спыняць перасьлед людзей паводле нацыянальнай прыналежнасьці. Спадзяемся, што беларуская меншасьць у Польшчы будзе мець права на нацыянальнае выяўленьне.

### APPEAL

The Belarusan society (name of organisation) in (city and country) is worried over the situation with the weekly of the Belarusans in Poland "Niva" (Bialystok). Since 1956, the newspaper "Niva" has been playing an unexpendable role in preserving the idea of the Belarusan identity and independence not only in Poland, but in Belarus as well. "Niva" has a due respect among Belarusan diaspora all around the world.

Unfortunately, in Bialystok Region, there are forces that have begun their actions of a discriminative kind towards the Belarusan minority in Poland. In essence, the weekly "Niva" and the signs of the Belarusans' national life in Poland are being destroyed right now. We consider the accusations of the Region's Prosecutor's Office Bialystok-North against the weekly "Niva" as a form of intimidation of the Belarusan community in Poland aimed at excluding the Belarusans of Bialystok Region from the country's political life.

The pressure upon the weekly "Niva", the revision of the Highest Control Chamber in the schools with the additional courses of the Belarusan language and the yearly demands of presenting the parents' declarations concerning their children's desire to be educated in their native tongue reveal an alarming symptom and a recurrence of the policy of the 1970's and 1930's when some Belarusan education establishments in Poland were closed and the Belarusan writing, language and school system were at the vanishing point.

The Belarusan society (name of organisation) in (city and country) does hope that with your assistance the highest powers of Poland, the country that has recently become a full member of the European Union, will pay their attention to the situation with the weekly "Niva" and stop the persecution of the people according to their nationality. We do hope that the Belarusan minority in Poland will have the right for their national life.

# Скрадзеныя дзеці

Дзяржава ў Беларусі крадзе дзяцей і робіць іх янычарамі, якія ня любяць нічога беларускага.

13 сьнежня 2004 году ў сярэднюю Англію, дзе я жыву, прыехала з Магілёўскай вобласьці група дзяцей у веку 10-15 гадоў, зь іх дзевяць дзяўчат і тры хлопцы. Запрасілі іх сюды як чарнобыльскіх дзяцей на месячны адпачынак і аплацілі падарожжа ангельскія сем'і.

У мясцовай прэсе была аб'ява, што патрабуецца чалавек, які гаворыць па-расейску, каб быць "Father Christmas" для дзяцей зь Беларусі. Я адклікнуўся на гэтую аб'яву і атрымаў бясплатную працу. Ад ангельцаў я даведаўся, што дзяцей тут правяраюць дактары.

Каляднае прыняцьце для дзяцей адбылося 22 сьнежня вечарам у грамадзкай залі пры піўной. З гэтай нагоды мая жонка купіла для кожнага дзіцяці падарунак. На спатканьне прыехалі ангельскія сем'і са сваімі дзецьмі. На адкрыцьці ангелец сказаў, што прыняцьце зарганізаванае для расейскіх дзяцей зь Беларусі (так яму сказалі наглядныя за дзецьмі). Я вымушаны быў выправіць ягоную памылку.

Потым я прывітаў усіх па-ангельску, а дзяцей па-беларуску. Пры раздаваньні падарункаў я даведаўся, што толькі адная дзяўчынка гаварыла па-беларуску, і яна прыехала зь вёскі. Для спатканьня я прыгатаваў копіі песьні "Люблю наш край, старонку гэту...", раздаў дзецям, і мы ўсе разам прасьпявалі гэтую песьню. Дзяўчынка зь вёскі ведала словы гэтай песьні, а астатнія дзеці ня толькі ня ведалі словаў, але і самое песьні ніколі ня чулі. Мая жонка, сама ангелька, сказала, што песьня ўсім спадабалася і ангельцы з задавальненьнем яе слухалі.

У залі быў прысутны перакладчык – малады чалавек, які сказаў, што ён сам зь Менску, але ня ведае па-беларуску а ні слова. Паколькі ён прыехаў асобна ад групы дзяцей, то, відаць, яго прыслала беларуская амбасада ў Вялікабрытаніі.

Ангельцам дзеці зь Беларусі вельмі спадабаліся, яны іх палюбілі й хочуць запрасіць да сябе і на наступны год.

Жыве Беларусь!

***М. БАЯРОЎСКІ***



***На здымку: беларуская дзяўчынка атрымала падарункі ад "Father Christmas".***

# Падтрымалі дэмакратыю ва Ўкраіне

## Аўстралія

Дэлегаты ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі й БЦКВ пасьпяшаліся ў цэнтар гораду да будынку Парляманту штату Вікторыя на запросіны Украінскай Грамады на дэманстрацыю ў падтрымку ўкраінскай апазыцыі.

На шматлікай дэманстрацыі, дзе прысутнічалі акрамя нашых дэлегатаў яшчэ і дэлегацыі латыская, славенская, грэцкая ды іншыя. З прамовамі да дэманстрантаў выступіў спачатку Старшыня ФРБАА сп. А. Груша, затым Старшыня БЦКВ сп. А. Шнэк. Прамовы заканчваліся клічам "Слава Украіне – Жыве Беларусь!", на што ўвесь натоўп адказваў аглушальнай авацыяй. Па заканчэньні дэманстрацыі нас запрасілі ва Украінскі Дом.

***Алег ШНЭК***



## Польшча

У Варшаве прайшоў мітынг, у якім прынялі ўдзел каля 2 тысяч чалавек, сярод якіх было некалькі соцень палякаў, а таксама некалькі соцень беларусаў, якія прыйшлі падтрымаць дэмакратыю ва Ўкраіне.

Дэманстранты перадалі петыцыю да Прэзыдэнта Польшчы А. Квасьнеўскага, а пасьля рушылі да амбасады Украіны ў Варшаве. Людзі скандавалі "Кіеў - Варшава: агульная справа", "Украіны не пакінем", "Вольная Украіна, вольная Беларусь", "Украіна бяз Пуціна!" і г. д.

Мітынг працягваўся каля 4 гадзінаў. Удзельнікі мітынгу абяцалі прыходзіць на маніфестацыі кожны дзень, пакуль В. Юшчанку не абвесьцяць прэзыдэнтам афіцыйна.

Напрыканцы народ прасьпяваў гімн Украіны.

***www.razam.org***



## Чэхія

У гэтыя дні ў братняй нам краіне адбываюцца важныя падзеі, якія можна сьмела назваць лёсавызначальнымі для ўсёй Эўропы. Перамога дэмакратычных сілаў адбылася, але галоўнае зараз – гэтую перамогу адстаяць. Таму вось ужо некалькі дзён запар па ўсёй Украіне праходзяць акцыі салідарнасьці й падтрымкі прэзыдэнта Віктара Юшчанкі. Аналягічныя акцыі адбываюцца і ў сталіцы Чэхіі – Празе. Тут, каля ўкраінскай амбасады, штодзень зьбіраюцца людзі побач з аранжавай палаткай пад жоўта-блакітным сьцягам у знак пратэсту супроць фальсыфікаваных вынікаў галасаваньня і грубага ўмяшальніцтва Расеі ва ўнутраныя справы Украіны.

Сёньняшняя Расея, палітыка Крамля, нясе пагрозу як сваім бліжэйшым суседзям, так і ўсёй астатняй Эўропе. Адзін з прыкладаў – Беларусь, дзе стаўленьнік Крамля А. Лукашэнка ўжо 10 гадоў праводзіць антыдэмакратычную, антынародную палітыку, практыкуючы забойствы палітычных апанентаў, гвалт над беларускай культурай, мовай і гісторыяй.

Сёньня Беларусь – гэта бандыцкая дзяржава, дзе не пажадаеш жыць нікому. Таму побач з украінскім над аранжавым намётам лунаў і бел-чырвона-белы сьцяг.

Мы, беларусы Чэхіі, якія ўваходзяць у арганізацыю "Зьвяз Беларусаў Замежжа", са дня галасаваньня 21 лістапада, побач з нашымі ўкраінскімі сябрамі. Мы жадаем ім трываласьці й моцы, каб адстаяць сваю перамогу дзеля Свабоды, Незалежнасьці, Дэмакратыі!

Жыве Беларусь ! Жыве Украіна!

***Аўген СІДОРЫК***

***30-га лістапада 2004 году***



## Бэльгія

На поклічу сэрца беларусы Бэльгіі 25 лістапада прынялі ўдзел у мітынгу ўкраінскай дыяспары Эўропы.

Украінцы зьехаліся са шмат якіх краінаў каб выказаць падтрымку В. Юшчанку, які перамог на прэзыдэнцкіх выбарах ва Украіне. Яны вельмі ветліва паставіліся да падтрымаўшых іх беларусаў, праявілялі зацікаўленасьць й ахвотна ішлі на кантакт.

Акцыя праходзіла ў Бруксэлі, таму на мітынгу таксама прысутнічалі прадстаўнікі Эўрапарляманту і Рады Эўропы.

Падчас мітынгу скандавалі: "Юшчанка!", "Слава Украіне! Слава героям!" ды іншыя лёзунгі. Словы абурэньня і пратэсту гучалі ў бок Кучмы й Расеі. У акцыі, якая прыцягнула да сябе ўвагу шмат якіх сродкаў масавай інфармацыі, узялі ўдзел блізу 2000 чалавек.

Беларуская грамада Бэльгіі ўпэўненая, што толькі праяўляючы такую-ж салідарнасьць і грамадзянскую сьведамасьць, як нашыя браты-украінцы, мы можам вырашыць нашую найгалоўнейшую праблему - антыбеларускі дыктатарскі рэжым Лукашэнкі.

Будзем разам - і мы пераможам!

***www.razam.org***



# Ганна (Нюра) РУСАК
## (18.07.1919 - 27.11.2004)



Для малодшых, што яе ведалі, яна была "цёцяй Нюрай" – ласкавай, лагоднай, заўсёды гатовай услужыць, паспрыяць, зрабіць што-небудзь прыемнае, ці то ўчынкам ці проста словам, усьмешкай, жартам. І ня толькі ў дачыненьні да тых, з кім была знаёмая. Яна была такой-жа "цёцяй Нюрай" для незьлічонай колькасьці незнаёмцаў, якія траплялі здалёк у вірлівы Нью-Ёрк і знаходзілі гасьцінны (а заадно і дармовы) прытулак у сям'і Валодзі й Нюры Русакоў. Дзьверы іхнага дому былі заўсёды шырока адчыненыя як для шматлікіх сяброў, гэтак і для незнаёмых суродзічаў-падарожнікаў. Усіх гасьцінна прыймала заўсёды ветлая й дабразычлівая "цёця Нюра". У чарзе па жыцьцёвыя выгоды яна заўсёды трымалася на самым канцы. Нават калі ўжо была цяжка хворая, моцна перажывала, што не магла пачаставаць наведнікаў. Дабрыня й шчодрасьць былі сутнасьцю ейнай натуры.

Ганна (Нюра) Лукашэвіч нарадзілася ў Баранавічах. Там-жа атрымала сярэднюю асьвету. Была здольная й працавітая, вучылася выдатна. У 1939 годзе па сканчэньні гімназіі ў Баранавічах здала экзамен на паступленьне ў Віленскі ўнівэрсытэт. Хацела йсьці на мэдыцыну, але польская ўлада абмяжоўвала магчымасьць праваслаўным беларусам быць лекарамі. Дарогу ў мэдыцыну Ганьне Лукашэвіч перагарадзіла так званая лікавая квота (numerus clausus). Каб вучыцца далей, Нюра залічылася на фізыка-матэматычны факультэт таго-ж унівэрсытэту.

Прыход Саветаў у верасьні 1939 году, а пасьля вайна пакрыжавалі пляны на далейшую асьвету. У 1941 годзе Нюра выйшла замуж за Уладзімера Русака. Жылі ў Баранавічах. На эміграцыю выехалі ў чэрвені 1944 году. Па заканчэньні вайны, у 1946 годзе Нюра залічылася на ўнівэрсытэт УНРРА ў Мюнхэне, але ва ўмовах паваеннай Нямеччыны вучыцца далей было даволі складана. Трэба было думаць пра выбар краіны сталага пасяленьня.

У 1949 годзе Валодзя й Нюра Русакі выехалі ў Амэрыку, пасяліліся ў Нью-Ёрку. Адразу-ж уключыліся ў справу дапамогі тым, хто застаўся ў Эўропе. Выкарыстоўваючы свой новы адрас ды знайшоўшы працадаўца, высылалі запросіны іншым суродзічам на прыезд зь Нямеччыны.

Нюра з мужам выдатна дабраліся характарам і сьветаглядам. Абое глыбока патрыятычныя ды поўнасьцяй адданыя грамадзкай працы, яны сталіся, фармальна й нефармальна, удзельнікамі заснаваньня й разбудовы ў Нью-Ёрку Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й жаноцкай дапамаговай арганізацыі, а таксама царкоўнага жыцьця. Ад самага прыезду на новае месца жыхарства ды праз усе гады актыўнага грамадзкага жыцьця іхная кватэра, а пасьля ўласны дом былі месцам заезду для бясконцага ліку гасьцей, у тым ліку многіх лідэраў і працаўнікоў на ніве палітыкі й культуры. Нюра самаахвярна дапамагала мужу ў ягоных грамадзкіх абавязках па лініі БАЗА, Рады БНР і царкоўнага жыцьця. Сама працавала на швэйнай фабрыцы аж да выхаду на пэнсію ў 62-гадовым веку.

У часе хваробы цёці Нюры шмат дапамогі ў самых розных патрэбах сям'і Уладзімера Русака аказалі дочкі нябожчыкаў Васіля й Галіны Русакоў Люда й Натальля. У разьвітальным слове над магілай цёці Нюры Натальля прыгадала часы, калі нябожчыца апекавалася ўсімі навокал сябе. Ня маючы сваіх дзяцей, сказала Натальля, яна была запраўднай маці іншым. Цёця Нюра апекавалася хворымі нават тады, калі сама недамагала. Праз усё жыцьцё яна не чакала ніякай удзячнасьці за паслугі, сьціпласьць была ейнай галоўнай прыкметай. Як трапна зазначыла Натальля, цёця Нюра была "добрай і мужнай беларускай жанчынай".

Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня разьвітальнае слова над магілай сказаў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелайць, прыгадаўшы часы, калі яны разам былі студэнтамі Віленскага ўнівэрсытэту й сябрамі беларускай студэнцкай арганізацыі.

Пахаваная нябожчыца на Беларускім могільніку ў Іст-Брансўіку. Акт пахаваньня выканаў а. Вячаслаў, настаяцель царквы Жыровіцкай Божай Маці (БАПЦ) у Гайленд-Парку, Нью-Джэрзі.

Муж нябожчыцы ахвяраваў у памяць жонкі $5000 на царкву Жыровіцкай Маці Божай.

Вечная памяць дарагой і незабыўнай Цёці Нюры.

*Янка ЗАПРУДНІК*

### ВЕРНАСЬЦЬ

Можна прайсьці сто тысяч кілямэтраў,
Аб'ехаць сьвет уздоўж, упоперак таксама,
Але ў душы не адступіць паўсантымэтра
І не аддаць, і не прадаць, і не апаганіць
Таго, што нам далі нашы дзяды і продкі,
Таго, што высьпевалі салаў'і Радзімы.
Няхай зьвініць нам мова сумнаю паводкай,
Няхай зьвініць у непадкупным гімне.
Вы з-пад Баранавіч, з-пад Менску,
Белавежы
Закінуты, Бог ведае дзе, у сьвеце новым.
Хай кожны з Вас да Краю роднага
належыць
Душою, думкамі, учынкамі і словам.
Бывае - сэрцы апустошацца бяскрайна,
І твары апрануцца ў крывадушнасьць
маскі,
Тады мы просім Бога: шчырасьці, Ты дай
нам,
Напоўні сэрцы нашы дабрынёю казкі.
І дай нам здольнасьці кахаць людзей
аддана,
І класьці ім на рукі толькі хлеб
сардэчны;
Для слоў сваіх заўсёды аставацца панам,
А для Айчыны быць толькі слугою
вечным.
Трэба было мне тысяч кілямэтраў,
Каб тут у доме цёплым Нюры і Валодзі
Пачуць цяпло прыязных беларускіх
ветраў
І белавескіх пушчаў несьмяротны водар
І сэрцаў крывічанскіх дабрату бяз краю,
Тую, што так сардэчна поіць песьні нашы.
Няхай гарыць, гарыць, ніколі не згарае
Дума пра Дзьвіншчыну, пра Піншчыну,
Падляшша.
Мне сёньня хочацца Вам шчыра
пакланіцца
За хлеб, за соль і за сардэчнасьць той
увагі,
Якая ёсьць у сьпёку шчодраю крыніцай,
А ў цемры промнем і надзеі, і адвагі.

*Алесь БАРСКІ*

# Юзэфа НАЙДЗЮК
## (01.02.1927- 19.11.2004)



Адыход з гэтага жыцьця ў Юзэфы Найдзюк (дзявоцкае прозьвішча Брэчка) быў неспадзяваны й хуткі. Здало сэрца. Сям'я й сябры страцілі дарагую асобу, руплівую маці й бабу, горача патрыятычную беларуску, шматгадовую ўдзельніцу грамадзкага жыцьця ў паваеннай Нямеччыне, а пасьля ў Каліфорніі.

Нарадзілася Юзэфа ў Мазурках Ляхавіцкага павету. Перад выездам у 17-гадовым веку з Бацькаўшчыны вучылася ў сярэднiй гандлёва-адміністрацыйнай школе ў Баранавічах. Належала да Саюзу Беларускай Моладзі.

Апынуўшыся ў Нямеччыне, яшчэ да заканчэньня вайны, брала ўдзел у беларускай дзейнасьці, была ў цяжкіх сытуацыях у савецкай зоне Нямеччыны, але дала рады захаваць жыцьцё й трапіць на Захад. Скончыла ў 1947 годзе Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе. Належала да кіраўніцтва беларускага скаўтынгу. Па заканчэньні гімназіі жыла ў ДПіўскіх лягерох у Розэнгайме, а пасьля ў Шляйсгайме пад Мюнхэнам. Дапамагала ў адміністрацыі газэты "Бацькаўшчына" й часапісу "Наперад!". Працавала ў тэхнічным аддзеле радыё "Вызваленьне". Брала актыўны ўдзел у беларускім культурным жыцьці.

У верасьні 1956 году, дзякуючы стараньням Хведара Шыбута, Юзэфа прыехала ў Амэрыку. Жыла коратка пры сям'і Шыбутаў у штаце Калярада, а неўзабаве выйшла замуж за Часлава Найдзюка й перабралася да мужа ў Каліфорнію. Пражыла з мужам 39 гадоў да ягонай сьмерці ў 1995 годзе. Пакінула ў глыбокім смутку дачок Ядзю, Карнэлю ды іхных мужоў (Gyu Genevier and Dale Bicknell) і пяцёра ўнукаў, а таксама сына Віктара.

Пахаваная нябожчыца побач мужа на могільніку Forest Lawn Cemetery, Hollywood Hills, Pasadena, California.

*Янка ЗАПРУДНІК*

# Людміла КОЛІН
## (24.06.1934 - 18.12.2004)



*Нарадзілася Людміла Колін (з дому Лабовіч) у засьценку Парэчча на Гомельшчыне.*

*Пакінула ў смутку сыной Грэгоры й Брадлі, а таксама маці, якой блізка 90 гадоў.*

Выказваю вялікі жаль і спачуваньні сваякам і сябрам незабыўнай Людмілы Колін у сувязі зь яе заўчаснай сьмерцю.

Адышла ў лепшы сьвет яшчэ адная беларуска, якая шкадавала і перажывала за свой пакутны Беларускі Народ.

Я ведаў Людмілу з таго цяжкага 1996 году, калі я вымушаны быў часова пакінуць Беларусь і шукаць палітычнага сховішча ў Амэрыцы. Людміла Колін арганізавала тады мне дапамогу сярод беларусаў. Яна была сьведамая грамадзкага значэньня і неабходнасьці свайго добрага чыну. Калі-б не яна, то значна цяжэй мне было-б тут палітычна працаваць і перажыць тыя стратныя для Беларусі гады.

Як шкода, што ня ўбачыць ужо яна вольнай Беларусі, што не парадуецца яе сьветлай будучыні, у якой яна сумнявалася, але якую чакала глыбока ў добрай сваёй душы.

Невылечная хвароба адабрала яе жыцьцё. Хай-жа лагодна прыме яе амэрыканская зямля. Хай сыняцца ёй сьветлыя сны аб Радзіме, аб страчаным часе, аб няспраўджаных марах, аб будучых днях, дзе беларускі далягляд, дзе вецер... І беларускі сьпеў над полем.

Бывай.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

## Калядныя і навагоднія віншаваньні

*дасылаюць сваім крэўным, сябрам, знаёмым і ўсім суродзічам:*

Міхась Баяроўскі
Кастусь і Марыя Верабей
Пётра Грыгальчык зь сям'ёю
Віктар і Ала Дубягі
Жэня, Юліян, Тамаш Дубягі
Міхась Каранеўскі зь сям'ёю
Антон Маркевіч з сынам
Надзя Няпейн
Анатоль Пранцэвіч
Алекс і Ніна Сільвановіч
Сям'я Стагановічаў
Вячка і Джоэн Станкевіч
Адольф і Кацярына Субота
Сяргей Трыгубовіч і Каця Рэзьнікава

Кансысторыя БАПЦ і парафія царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Н. Дж., віншуе сваіх вернікаў і ўсіх суродзічаў з Раством Хрыстовым і жадае вясёлых сьвятаў і шчаслівага Новага 2005 году.

Віншуем ўсіх крэўных, сяброў і прыяцеляў з Раством Хрыстовым і жадаем здароў'я і памыснасьці ў Новым годзе.
*Міхась, Часлаў, Гэля, Ноля, Жанэт Лужынскія*

Архіяпіскап БАПНЦ Юры й сьвятары ў Беларусі вітаюць сваіх вернікаў і прыхільнікаў са сьвятам нараджэньня Хрыстовага і жадаюць вытрываласьці на Божай ніве.

Рэдакцыі газэты "Беларус", суродзічам у гэтым сьвеце, дзе моляцца Богу, каб памог аднавіць дэмакратычную Беларускую Народную Рэспубліку, жадаю добрага здароў'я і радасных Калядаў!
*Кастусь АКУЛА*

Калядныя і навагоднія віншаваньні шле ўсім сябрам і знаёмым сям'я КАЖАНЕВІЧ з Англіі.

Якуб Сапежынскі зь сям'ёю віншуе ўсіх з Калядамі й Новым 2005 годам.

### ШАНОЎНЫЯ СУРОДЗІЧЫ!

**Управа Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына"** сардэчна віншуе з Калядамі і Новым 2005 годам!

Вашае адданае служэньне Беларусі і роднай культуры зьяўляецца прыкладам для многіх беларусаў на Радзіме. Вашае жыцьцё і дзейнасьць у тысячах кілямэтраў ад бацькоўскай зямлі патрабуе асаблівай духовай загартаванасьці. Ваш патрыятызм – высокі маральны ўчынак!

Зычым шчасьця, моцнага здароўя, дабрабыту і плёну ў справах! Няхай Боскае спрыяньне заўсёды будзе з вамі!

*Управа Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына"*

## Пачатак падрыхтоўкі 4-га зьезду беларусаў сьвету

23 лістапада 2004 году адбылося паседжаньне Малой Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", на якім было прынятае рашэньне аб скліканьні 16-17 ліпеня 2005 году Чацьвёртага зьезду беларусаў сьвету. На паседжаньні абмеркаваныя прынцыповыя пытаньні Зьезду і абвешчаны пачатакпрацы па ягонай падрыхтоўцы. На Зьезьдзе чакаецца прысутнасьць прадстаўнікоў беларускай дыяспары з больш чым 25 краінаў сьвету. Месцам правядзеньня Зьезду абраны горад Менск.

Абмеркаваўшы актуальныя пытаньні беларускай сусьветнай супольнасьці, Малая Рада вызначыла асноўную тэму Зьезду: "Дыяспара для Беларусі – Беларусь для дыяспары. Шляхі да кансалідацыі і разьвіцьця нацыі". У межах Зьезду запланаваныя наступныя сэкцыі й круглыя сталы:

1) Месца Беларусі ў Эўропе;
2) Беларуская эміграцыя: зьмена пакаленьняў;
3) Роля беларускай дыяспары ў дэмакратычных пераўтварэньнях у Беларусі;
4) Пэрспектывы эканамічнага супрацоўніцтва: Беларусь – дыяспара;
5) Культура і адукацыя. Хада нацыянальна-культурнага адраджэньня.

Рашэньнем Малой Рады быў створаны Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзеньні Чацьвёртага зьезду беларусаў сьвету. Старшынём Аргкамітэту абраны прафэсар Анатоль Грыцкевіч, сустаршынямі: акадэмік Радзім Гарэцкі, доктар Янка Запруднік, Старшыня Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская, сябры Ўправы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Валеры Герасімаў і Барыс Стук.

Прызначаныя каардынатары па падрыхтоўцы Зьезду ў Польшчы, Расеі, Украіне, Летуве, Латвіі, Эстоніі, краінах Цэнтральнай і Заходняй Эўропы, Аўстраліі, ЗША, Канадзе.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*тэл. 226-83-37, факс 289-31-94, zbsb@lingvo.minsk.by*

Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ ў Брукліне па адрасу: *401 Atlantic Ave* запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

## Шаноўныя чытачы!

**З надыходам Новага 2005 году прыйшоў час працягнуць падпіску на газэту "БЕЛАРУС".**

**Калі Вы яшчэ не падпісаліся, то просім гэта зрабіць як найхучэй.**

## Газэта "БЕЛАРУС"

*бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.*

*Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belsrusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.


## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

Г. Бахар ....................100
М. Занковіч ....................100
А. Монід ....................100
М. Сагановіч ....................100
Г. Руднік ....................75
К. Акула ....................70
А. Завістовіч ....................60
С. Белая ....................50
В. Грыцук ....................50
І. Ільчук ....................50
А. Кабяка ....................50
Кансысторыя БАПЦ ....................50
Ю. Касьцюкевіч ....................50
Парафія БАПЦ у Гайленд Парку, Н. Дж. .... 50
Н. Рагуля ....................50
Я. Сапежынскі ....................50
М. і Н. Сіцько ....................50
А. Маркевіч ....................40
М. і Т. Белямук ....................35
А. Яраховіч ....................35
Ю. Андрусышын ....................30
Н. і І. Аляксандар ....................30
С. Бандарэнка ....................30
Ф. Бартуль ....................30
М. Калядка ....................30
С. Кузьміцкі ....................30
А. Кузьміч ....................30
З. Левіт ....................30
С. Масюк ....................30
К. і Г. Мярляк ....................30
В. Нікіфаровіч ....................30
Т. Паланевіч ....................30
А. і В. Пранцэвіч ....................30
А. Радзюк ....................30
В. Станкевіч ....................30
А. Тальянскі ....................30
Ж. Шкарбанава ....................30
Я. Яновіч ....................30
В. і А. Дубяга ....................25
Ж., Ю., Т. Дубягі ....................25
М. Каранеўскі ....................25
Н. Няпейн ....................25
А. і Н. Сільвановіч ....................25
Сям'я Стагановіч ....................25
А. і К. Субота ....................25
С. Трыгубовіч і К. Рэзьнікава... 25
Ананімна ....................20
С. Будкевіч ....................20

### Справаздача ад М. Мароз з Пэрту (Аўстралія)

П. Дарэўскі аўстр.$ ........100
А. Мароз ....................50
М. Мароз ....................50
М. Мігал ....................50
А. Ніжнік ....................50
М. Раецкі ....................50
В. Лашкевіч ....................40
Згурт. Бел. у Зах. Аўстр...... 25

### Справаздача ад М. Лужынскага з Сыднэю (Аўстралія)

М. Лужынскі аўстр. $......500
М. Антух ....................60
Л. Бакуновіч ....................60
Др. С. Легенчанка ....................60
В. Ліпскі ....................60
О. Нарушэвіч ....................60
Г. Падгайская ....................60
Л. і Э. Парэцкія ....................60
В. і О. Русак ....................60

### Заміж кветак на магілу Ганны РУСАК:

Я. і Н. Запруднік ........100

### Заміж кветак на магілу Людмілы КОЛІН:

Ю. Андрусышын ..........50

**Усім шчыры дзякуй!**